# ЛЁТАЮЧЫЯ МАШЫНЫ



ЦІ МОЖНА ІХ СПЫНІЦЬ

СТАР. 3, 8

ТУТ І ЦЯПЕР

WWW.SVABODABY.NET

# КУПЛЯЙЦЕ БЕЛАРУСКАЕ!

БО ІНШАГА НЕ БУДЗЕ




СТАР. 4-5

БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА 12.01.12-18.01.12 г.

# СУРЫКАЎ РАЗБУШАВАЎСЯ

Расійскі амбасадар пакрытыкаваў Дзмітрыя Мядзведзева і Уладзіміра Пуціна, а таксама зрабіў скандальныя заявы, якія тычацца Беларусі.



*Рада БНР прапануе зрабіць Сурыкава персонай нон-грата*

## НЯДОЎГА ТРЫМАЎ ЯЗЫК ЗА ЗУБАМІ

Трэба адзначыць, што кіраўнікі дыпламатычных місій усходняй суседкі не ўпершыню вызначаюцца празмернай гаварлівасцю. У 2005 годзе Дзмітрый Аяцкаў атрымаў агрэман на пасаду амбасадара РФ у Беларусі, але да Мінска так і не даехаў, бо на прэсавай канферэнцыі параіў Аляксандру Лукашэнку "не дуть щеки" і наогул выказаў намер "сломать" кіраўніка Беларусі. Апошні такога панібрацтва не пацярпеў, і расійскаму Міністэрству замежных спраў давялося шукаць новага амбасадара.

Улічваючы досвед Дзмітрыя Аяцкава, Аляксандр Сурыкаў нейкі час пасля з'яўлення ў сталіцы Беларусі трымаў язык за зубамі. Аднак паступова заявы дыпламата рабіліся ўсё больш смелымі. У 2008 годзе расійскі амбасадар фактычна зрабіў вымову Лукашэнку за тое, што Беларусь не спяшаецца прызнаць незалежнасць Абхазіі і Паўднёвай Асеціі, якія былі адабраны ў Грузіі шляхам узброенага канфлікту.

Пазней Сурыкаў таксама раз-пораз крытыкаваў тыя ці іншыя крокі беларускіх улад. Аднак было зразумела, што гэта рабілася ў рэчышчы тагачаснай палітыкі Крамля. Таму афіцыйны Мінск вялікіх прэтэнзій да амбасадара не меў.

> "...Хаця гэтую "кульгавую качку" зараз мала хто ўспрымае ўсур'ёз"

Днямі ў размове з карэспандэнтамі газет "Белорусы и рынок" і "Звязда" Сурыкаў празрыста намякнуў, што Беларусі някепска было б перайсці на расійскі рубель, для таго каб пазбегнуць валютных крызісаў у будучыні. Да таго ж амбасадар заявіў, што Расія будзе абмяжоўваць вытворчасць кітайскіх аўтамабіляў у Беларусі (такі праект зараз разглядаецца на ўзроўні ўрада).

Першай на гэтыя тэзісы адрэагавала Рада Беларускай Народнай Рэспублікі, якая запатрабавала абвяшчэння Сурыкава асобай нон-грата за недапушчальнае для дыплamata ўмяшанне ва ўнутраныя справы суверэннай краіны. Афіцыйны Мінск зноў змаўчаў, аднак пагроза для амбасадара можа ўзнікнуць з іншага боку.

## "ЧАША ТЕРПЕНИЯ»

Справа ў тым, што Сурыкаў таксама пракаментаваў апошнія расійскія падзеі. Прычым асобныя цытаты з яго інтэрв'ю зрабілі б гонар лідару апазіцыі.

"Последние выборы у нас переполнили чашу терпения людей", — распавёў амбасадар, асобна адзначыўшы несправядлівы характар выбарчага працэсу.

*Заканчэнне на стар. 3*

ДЫЯГНАЗ

## КРЭДЫТЫ... НА РАХУНКАХ ЗА МЯЖОЙ

**Еўрарадыё разабралася, ці выгадна выкарыстоўваць крэдыты на папаўненне золатавалютных рэзерваў.**

Аб'ём золатавалютных рэзерваў Беларусі дасягнуў гістарычнага максімуму — амаль 8 мільярдаў долараў. Праўда, папоўніўся ён у асноўным за кошт крэдытаў.

Ці выгадна, што крэдыты асядаюць у ЗВР, а не працуюць на эканоміку? У Нацбанку кажуць, што папоўніць золатавалютны запас — галоўнае!

Эканаміст **Леанід Заіка** лічыць, што гэтым грошам можна знайсці лепшае прымяненне.

Заіка: *"Я, праўда, не разумею, навошта грошы за "Белтрансгаз" змяшчаць у золатавалютныя рэзервы. Гэта ж 10 аўтамабільных заводаў, якія мы маглі б пабудаваць і пасля закідваць аўтамабілямі Казахстан, Узбекістан, Туркменістан і г.д.! Якімі хочаце, хаця б і ё-мабілямі..."*.

Эканаміст Цэнтра сістэмнага аналізу і стратэгічных даследаванняў НАН Беларусі **Аляксандр Гатоўскі** кажа, што мы не павінны траціць грошы, якія не зарабілі, унутры краіны.

Гатоўскі: *"Замежныя крэдыты прыходзілі да нас у 2009—2010 гадах. Гэтыя грошы ў выглядзе беларускіх рублёў Мінфін здымаў з рахункаў Нацбанка і ўкідваў у дзяржаўныя праграмы — па падтрымцы сяла, будаўніцтва і г.д. Гэта выклікала залішняе грашовае прапанаванне ўнутры эканомікі, што рэалізоўвалася ў закупцы дадатковага імпарту. Таму ў нас было адмоўнае сальда"*.

**НАСТА МАНЦЭВІЧ**

# ЯК ВЫ АЦЭНЬВАЕЦЕ ПАРТНЁРСТВА ЦАРКВЫ І ДЗЯРЖАВЫ?

**АЛЯКСАНДР ШАМКО,
КЛЕРЫК БЕЛАРУСКАЙ ПРАВАСЛАЎНАЙ ЦАРКВЫ:**

## “ЦАРКВА ЎПЛЫВАЕ НА ГРАМАДСТВА ПРАЗ СВАІХ ВЕРНІКАЎ”.

— Мы часам няправільна разумеем свецкасць і духоўнасць. Царква — гэта не будынак, куды мы прыйшлі, памаліліся, разышліся, і нас больш не бачна. Насамрэч наша духоўнасць – гэта нашы паводзіны, дзеянні, гэта тое, што нас адрознівае ў жыцці ад людзей няверуючых. Калі чалавек веруючы, ён па-іншаму сябе паводзіць, па-іншаму думае. І гэта адбіваецца на ўсім яго жыцці, а праз яго і на жыцці ўсяга грамадства.

Хлусня на выбарах — грэх. І царква не павінна агітаваць за кагосьці, але павінна заклікаць да шчырасці. І гэта будзе ўплывам. Чым адрозніваецца ўлада свецкая ад улады царкоўнай? Свецкая мае інстытут гвалту — хто не слухаецца, таго прымусім. Царква не можа нікога прымусіць, толькі аўтарытэтам. Гэта ўлада аўтарытэту. Царква аддзелена ад дзяржавы, але не аддзелена ад жыцця дзяржавы.

**ВАЛЯНЦІН АКУДОВІЧ, ФІЛОСАФ:**

## “ГЭТА ДАЎНЯЯ БАРАЦЬБА З ЧАСОЎ СЯРЭДНЯВЕЧЧА”.

— Еўрапейскае чалавецтва стагоддзямі літаральна выпакутвала сітуацыю, у якой царква будзе адлучана ад дзяржавы. Гэта адно з найвышэйшых дасягненняў еўрапейскай цывілізацыі. Гэта даўняя барацьба за падзел улады з часоў Сярэднявечча. У свой час царква імкнулася ўладарыць над усім — і над духоўным светам чалавека, і над яго рэальным жыццём. І пералом адбыўся досыць позна, калі свецкія ўлады сказалі: “Не. У вас ёсць свая дзялянка, там і шчыруйце!” Падзел адбыўся. Гэта вялікае дабро. А дзе яшчэ парэшткі застаюцца, гэта атавізм. Таму для мяне ўдзел царквы, касцёла, сінагогі ў сацыяльна-палітычным жыцці нічога добрага не нясе. Яе задача — апекавацца нашымі душамі, рыхтаваць іх да таго свету і ўлагоджваць улады, калі яны дрэнна з намі абыходзяцца; нагадваць ім, што ў іх таксама ёсць душа, і калі яны будуць сябе дрэнна паводзіць, то там ім мала не падасца. Таму тое, што сказаў расійскі патрыярх Кірыл пра павагу да мітынгуючых супраць несправядлівых вынікаў парламецкіх выбараў у Расійскай Федэрацыі... Справа ў тым, што Кірыл, як усе вярхоўныя расійскія іерархі, не духоўны пастыр. Ён палітык, як заўсёды было ў Расіі, дзе духоўная ўлада была адным з інстытутаў палітычнай улады.

У аснове яго казанняў ляжаць палітычныя матывы і інтарэсы. І яны толькі падаюцца дэмакратычнымі, бо нічога іншага ён казаць не можа. Інакш ён не будзе вярхоўным іерархам рэлігійнага інстытута.

**ЮРЫ ХАДЫКА,
НАВУКОВЕЦ, ГРАМАДСКІ ДЗЕЯЧ:**

## “БЕЛАРУСКІЯ ЦЭРКВЫ НЕ ЦАЛКАМ ВЫКОНВАЮЦЬ СВАЮ ХРЫСЦІЯНСКУЮ МІСІЮ”.

— Царква называе сябе паслядоўніцай Хрыста. Калі ўважліва Біблію, то бачна, што Хрыстос займаў актыўную палітычную пазіцыю ў свой час. Ён выказваў такія філіпікі на адрас пануючага класа, якія нават не сняцца ні патрыярху Кірылу, ні нашаму Філарэту. І таму я лічу, што тое, што зрабіў Кірыл, правільна, хай гэта і крыху блытаная заўвага ўладзе аб тым, што так сябе паводзіць нельга. А вось тое, што беларускія цэрквы (каталіцкая ў меншай ступені, праваслаўная ў большай) абсалютна добраахвотна адыгрываюць ролю памагатых рэжыму, мне вельмі не падабаецца. Я лічу, што тым самым яны не цалкам выконваюць сваю хрысціянскую місію. Царква можа рабіць шмат чаго. Канечне, прама заклікаць да нейкіх дзеянняў яна наўрад ці будзе, але тут, прыкладам, ёсць святы Ян Павел II, які ў 1980 годзе сказаў у сваім казанні: "Не бойцеся!", і палякі перасталі баяцца. Я сказаў нашаму архімандрыту, што за год мы ні аднаго разу ў казаннях не згадалі пра нашых палітзняволеных. Хто замінае памаліцца за іх здароўе, за іх вызваленне? Яны ж пакутуюць за нас! Як язык праглынулі… Нешта намагаўся сказаць у казанні Кандрусевіч. Ну хоць спрабаваў сказаць. А чаму не маліцца? У іх ёсць дні народзінаў. Чаму не згадаць? Гісторыя дае нам мноства прыкладаў. Паўстанні 1830-га і 1863-га рыхтаваліся праз царкоўную службу. І паўставала грамадзянскае непадпарадкаванне, а рэжым быў не менш жорсткі. За Саветамі святары былі запалоханы ўладай, а зараз чаго так дрыжаць? Я гэтага не разумею.


*Радасці ва ўзаемаадносінах Царквы і дзяржавы за ўсе часы супольнага існавання было няшмат*

**АФІЦЫЙНА**

**Царкоўна-дзяржаўнае партнёрства ў Беларусі становіцца больш сталым і плённым, напаўняецца новым зместам.** Пра гэта заявіў Мітрапаліт Мінскі і Слуцкі Філарэт, Патрыяршы Экзарх усяе Беларусі на сходзе Мінскай епархіі. Тэкст выступлення Яго Высокапраасвяшчэнства змешчаны на афіцыйным сайце БПЦ, паведамляе БелТА.

*“Тое, што яшчэ 20 гадоў назад магло падацца немагчымым, сёння стала звычайнымі фактамі нашага жыцця. Царква не толькі заявіла пра сябе, пра свае правы, але і стала паўнапраўным удзельнікам грамадскіх адносін у Беларусі. Больш за тое, яна актыўна ўплывае па фарміраванне грамадзянскага грамадства”,* — адзначыў уладыка.

Кіраўнік БПЦ таксама заўважыў, што традыцыйнымі сталі сустрэчы Сінода Беларускай царквы з Прэзідэнтам Беларусі Аляксандрам Лукашэнкам, падчас якіх у сяброўскай і добразычлівай атмасферы абмяркоўваюцца самыя важныя тэмы царкоўна-дзяржаўных узаемаадносін. У 2003 годзе было падпісана Пагадненне аб супрацоўніцтве Беларускай праваслаўнай царквы з Рэспублікай Беларусь.

**СЯРГЕЙ, СТУДЭНТ:**

## “ЧАМУ МЫ ПАВІННЫ ПРЫСЛУХОЎВАЦЦА ДА ЛЮДЗЕЙ З НУЛЯВЫМ АЎТАРЫТЭТАМ?”

— А што думае Дзед Мароз з нагоды маскоўскіх мітынгаў? Мне гэта настолькі ж цікава, як і думкі людзей у расах, якія гандлююць гарэлкай, выслужваюць гэбэшныя званні. І што такога асаблівага сказаў Кірыл? “Ад царквы Пуціна адлучу?” “Мядзведзева пракляну”? Ён сказаў абсалютна банальныя рэчы. Калі б ён сказаў, што двойчы два чатыры, то царква стала б неабыякавай да праблем матэматыкі? Інфармацыі ў яго пасланні было нуль.

**АПЫТАННЕ ЗРАБІЎ ЗМІЦЕР ЗЯЗЮЛЯ**

*Заканчэнне.
Пачатак на стар. 1*

# СУРЫКАЎ РАЗБУШАВАЎСЯ

З аднаго боку, існаванне пэўных падстаў для пратэстаў прызнавалі і больш высокапастаўленыя расійскія чыноўнікі, аднак на сёння вынікі выбараў афіцыйна зацверджаны, таму словы Сурыкава з'явіліся нечаканасцю. Тым больш што на гэтым ён не спыніўся.

"У людей изъяли право избирать губернаторов в свое время, у них изъяли право избирать депутатов по округам, изъяли наказы депутатам; сами депутаты потеряли право контроля за деятельностью власти. И народу стало очень сложно достучаться до власти", — гэта кажа не прамоўца на маскоўскім мітынгу, а расійскі амбасадар у Мінску.

І, нарэшце, ледзь прыхаваны "наезд" на Дзмітрыя Мядзведзева (хаця гэтую "кульгавую качку" зараз мала хто ўспрымае ўсур'ёз) і нават самога Уладзіміра Пуціна — будучага прэзідэнта: "Есть и некоторая усталость от той властной ситуации, которая сложилась, в том числе в отношении правил формирования игры. При чём здесь избиратели, если один другого назначает? Тут есть вопросы".

Пытанні ў сувязі з гэтым могуць з'явіцца і да самога Сурыкава — у яго працадаўцаў. Усё ж такі амбасадар мусіць праводзіць палітыку, якую вызначаюць кіраўнікі яго краіны, а не крытыкаваць іх, хай сабе і мякка. Хаця цалкам верагодна, што ў Крамля зараз ёсць больш значныя клопаты, чым рэагаванне на заявы свайго прадстаўніка ў Мінску.

У любым разе, сачыць за Сурыкавым робіцца ўсё цікавей і цікавей. А што расійскі амбасадар распавядзе нам наступным разам?..

**ВАЛЯНЦІН СЫЧ**

# ЯК СПЫНІЦЬ ЛЁТАЮЧЫЯ МАШЫНЫ?

## П'янага кіроўцу, які сядзеў за рулём "БМВ-525", не спынілі нават стрэлы.

*«Пасля недоўгачасовай гутаркі з інспектарам ДПС 19-гадовы ліхач націснуў на педаль газу і панёсся ў бок мікрараёна «Серабранка», —* распавядае прэс-афіцэр Ленінскага РАУС Мінска. — *Для спынення ўцекача міліцыянтам давялося ўжыць табельную зброю, але нават на пашкоджаных колах малады чалавек прадоўжыў язду, абарваць якую ўдалося толькі з дапамогай дадатковых экіпажаў ДАІ»*.

Гэта толькі адзін гучны факт з апошніх зводак Дзяржаўтаінспекцыі. Мяркуючы па навінах аб ДТЗ са страшнымі падрабязнасцямі, аварый стала больш.

**Хто ў гэтым вінаваты? Ці варта сёння рабіць яшчэ больш жорсткімі Правілы дарожнага руху?** Адказы на гэтыя і іншыя пытанні разам з экспертамі, якія маюць немалы вадзіцельскі стаж, шукала сеткавая газета **"Тут і цяпер"**.


*Ісці нават па пешаходнаму пераходзе цяпер стала не зусім бяспечна*

### А ЦІ ВЕДАЕЦЕ ВЫ, ШТО...

**У Віцебску з'явіцца святлафор, які фіксуе парушэнні ПДР пешаходамі**

Ён будзе абсталяваны відэакамерай, якая заклікана адсочваць парушэнні правілаў дарожнага руху пешаходамі.

Неабходнасць нававядзення на дарогах горада абумоўлена значнай колькасцю аварый па віне пешаходаў.

### "МАШЫНА НЕ ЕХАЛА, А ЛЯЦЕЛА!"

Інспектар аддзела па агітацыі і прапагандзе ДАІ ГУУС Мінгарвыканкама **маёр міліцыі Вячаслаў Ліпень** лічыць, што многія вадзіцелі проста расслабіліся за рулём і не выконваюць элементарныя правілы дарожнага руху.

— На мой погляд, ні пераход гадзіннікаў, ні ўмовы надвор'я на колькасць аварый моцна не ўплываюць, — выказвае сваё меркаванне супрацоўнік ДАІ. — Проста кульгае дысцыплінаванасць удзельнікаў дарожнага руху.

**— За некалькі дзён здарылася адразу тры аварыі з удзелам БМВ. Напрыклад, на праспекце Незалежнасці БМВ урэзалася ў агароджу падземнага пераходу і загарэлася.**

— Відавочцы кажуць, што гэтая машына не ехала, а ляцела. Зноў жа, гэта сведчыць аб тым, што нашы вадзіцелі не хочуць выконваць хуткасныя рэжымы, якія ўстанаўліваюцца не проста таму, што камусьці так захацелася, а з улікам інтэнсіўнасці руху, аналізу аварыйнасці на тым ці іншым участку дарогі.

**— У апошні час часцяком здараюцца і наезды на пешаходаў…**

— Многія кіроўцы лічаць, што заўсёды будуць ездзіць толькі на аўто і самі пешаходамі ніколі не стануць, таму і адбываюцца аварыі. Няма паразумення паміж кіроўцамі і пешаходамі. Вось у мяне быў выпадак, калі я працаваў інспектарам ДПС. Аднаго пешахода не прапусцілі на пераходзе, я склаў адміністрацыйны пратакол на вадзіцеля і яшчэ 10 хвілін слухаў лекцыю ад гэтага пешахода аб тым, якія ў нас дрэнныя кіроўцы. А ўвечары на тым жа самым пешаходным пераходзе спыніў аўтамабіль, які таксама не прапусціў пешахода, і за рулём быў той самы чалавек, які мне лекцыю чытаў!

**— Мяне саму амаль год назад аштрафавалі якраз з-за пешахода. Скажу шчыра: пасля штрафу і запісу ў талон стала больш уважлівай за рулём, а пешаходаў цяпер прапускаю дзе трэба і дзе не трэба. Дарэчы, ёсць меркаванне, што штрафы за парушэнне ПДР варта было б павялічыць...**

— Я думаю, узмацненне ні да чаго не прывядзе. На кагосьці штрафы будуць дзейнічаць, кагосьці яны прымусяць перайсці на хлеб і ваду, калі парушэнні будуць мець месца. А іншыя як парушалі, так і будуць парушаць. Я лічу так: калі да кожнага чалавека дойдзе, што трэба быць культурным за рулём, выконваць правілы дарожнага руху, тады ў нас і будзе парадак на дарогах.

*Заканчэнне на стар. 8*

# КУПЛЯЙЦЕ БЕЛАРУСКАЕ! БО

Чаму мараканскія памідоры выглядаюць лепш за "свойскую" ждановіцкую агародніну, а каштуюць менш? Няўжо прасцей прывезці бульбу з Аргенціны, чым захаваць прывабны выгляд і смак беларускай? Чым, акрамя цаны, адрозніваецца беларуская баваўняная фуфайка ад турэцкай? Такія пытанні, мабыць, чуў і задаваў ледзь ці не кожны з нас падчас шопінгу.



*Беларускае, можа і самае маё, але далёка не заўсёды лепшай якасці, чым імпартнае*

Але неўзабаве надыдзе той час, калі беларусы будуць вымушаны аддаваць свае працоўныя даходы не замежным эканамічным "агрэсарам", а беларускім вытворцам, прынамсі, тым з іх, хто будзе вырабляць імпартазамяшчальныя тавары згодна з пастановай Саўміна РБ № 1779 (з тэкстам дакументу можна азнаёміцца тут - http://www.government.by/upload/docs/file6684e5f30bb984b3.PDF). Узрадуемся, спадарства: у бягучым годзе з'явіцца шмат новых тавараў "мэйд ін Беларусь". У пераліку 81 катэгорыя спажывецкіх харчовых і нехарчовых тавараў, ад прыпраў і "шакаладных вырабаў у форме яйка полага" да кандыцыянераў, энергазберагальных лямпачак, накрывак для ЗВЧ-печак, турак для кавы, універсальных дзіцячых калясак, рэпелентаў і парфума.

## ПРЫВАТНЫ ІНТАРЭС

Асабіста мяне, як і многіх маладых ці будучых бацькоў, міжволі "зачапілі" тавары і прадукты для дзяцей. Вельмі яскрава адбілася ў памяці тое, як летась доўга і ўпарта шукала для дачкі слінючку беларускай вытворчасці. У выніку самае "беларускае", што знайшлося, было выраблена… у Смаленску. Здавалася б, чаго прасцей: пялёнка, цырата, матузок, пара швоў — і тысячы бацькоў скажуць "дзякуй" айчыннаму вытворцу. Але ёсць, аказваецца, непрыкметныя звычайнаму воку цяжкасці ў швейнай справе…

Цяпер жа яно, звычайнае вока, радуецца: у імпартазамяшчальным спісе — 28 тон гіпаалергенных малочных сумесяў для немаўлят, а карамельных, мармеладных ды шакаладных цукерак — сотні тон, 1100 пар абутку для дзяцей, калясак універсальных — 250 штук, пазлаў — 1000 асобнікаў, канструктараў — 20 тысяч, 5 тысяч лялечных калясак, 3 тысячы настольных гульняў, 7 тысяч скрынак для цацак, 7 мільёнаў падгузкаў… Зрэшты, суаднясём дзяржзаказ з рэчаіснасцю. 250 універсальных калясак — пры тым, што за снежань — лістапад 2011 года толькі ў Мінску нарадзілася 19 331 дзіця, а ўсяго ў Беларусі больш як 99,9 тысяч… Значыць, пракаціцца ў беларускай калясцы зможа толькі адно дзіця з кожных 400. А каштаваць, з улікам мізэрных аб'ёмаў вытворчасці, адна беларуская каляска будзе як маленькі касмічны шатл? Тое, як дзеці і бацькі будуць дзяліць "цэлых" 2000 замяняльнікаў кіндэрсюрпрызаў (шакаладных вырабаў у форме яйка полага) увогуле страшна ўявіць.

> "Праграму прыдумалі людзі, далёкія ад канкрэтнай эканомікі, якім неабходна паказаць імітацыю бурнай дзейнасці, вось і сачыняюць усякую лухту".

У выпадку ж з падгузкамі, вытворчасць якіх у СЭЗ (свабоднай эканамічнай зоне) "Магілёў" будзе кантраляваць адпаведны аблвыканкам, мяне неадступна пераследуе дэжа вю. Не далей як напрыканцы 2010 года вытворчасць гэтых прадметаў гігіены анансаваў адзін з рэзідэнтаў СЭЗ "Мінск", які ўжо ў 2013 годзе абяцаў замясціць уласнай прадукцыяй да чвэрці адпаведнага імпарту. Былі нават набыты плошчы для будаўніцтва завода, але ў крызісным 2011 годзе справа спынілася канчаткова. Зрэшты, была і больш паспяховая спроба — пры ўдзеле кампаніі "Беліта". Але гэтыя падгузкі, па-першае, айчынны складнік мелі ўмоўна, а па-другое, хоць і набылі пэўнае кола карыстальнікаў, вялікай папулярнасці не займелі і на імпартазамяшчэнне не пацягнулі нават з нацяжкай.

Трэцяя спроба мо і атрымаецца паспяховай, але толькі пры ўмове, што падгузкі будуць істотна таннейшымі за замежныя аналагі (што наўрад ці), або калі будзе ўключаны адміністратыўны рэсурс.

Бедныя дзеці…

## ПАЎТАРЭННЕ ПРОЙДЗЕНАГА

Пры словах "імпартазамяшчальныя тавары" толькі лянівы не прыгадае скандал з нібыта "інтэгралаўскімі" камп'ютарнымі маніторамі, якія пры больш блізкім разглядзе аказаліся зусім іншай, сусветна вядомай маркай з налепленай зверху айчыннай этыкеткай. Але цалкам верагодна, што з асабістай званіцы сітуацыя падаецца горшай, чым ёсць на самай справе. Таму ацаніць праграму імпартазамяшчэння-2012 "Тут і цяпер" папрасіла чалавека, які ў пытаннях эканомікі і вытворчасці з'еў, як кажуць, не адзін дзясятак сабак. Былы старшыня камісіі Вярхоўнага савета Рэспублікі Беларусь 13 склікання па эканамічнай палітыцы і рэформах, экс-старшыня канцэрна "Амкадор" Васіль Шлындзікаў сказаў наступнае:

— На маю думку, імпартазамяшчэнне магчыма для асобных прадпрыемстваў. Скажам, для аўтазавода, які вымушаны набываць асобныя дэталі ў Расіі і Украіне — больш танныя, але і менш якасныя, чым у Заходняй Еўропе. Вось для яго мэтазгодна стварыць сетку дробных прадпрыемстваў па ўсёй краіне з галаўным зборачным цэхам у сталіцы. А імпартазамяшчэнне ў глабальных маштабах — ці патрэбнае яно? Праграму прыдумалі людзі, далёкія ад канкрэтнай эканомікі, якім неабходна паказаць імітацыю бурнай дзейнасці, вось і сачыняюць усякую лухту. Увогуле, мне гэта нагадвае часы работы ў абкаме партыі: мы таксама стваралі разнастайныя праграмы, якія завяршаліся, як правіла, нічым. Вытрымаць канкурэнцыю ў сусветнай эканоміцы пры цяперашняй заскарузлай калгаснай мадэлі кіравання — гэта ўтопія.

Для таго, каб не ўзнікала неабходнасці складаць такія праграмы, трэба проста развіваць унутраны рынак ва ўмовах ліберальнай мадэлі эканомікі. Тады час і натуральная канкурэнцыя расставяць

# ІНШАГА НЕ БУДЗЕ

усё па сваіх месцах, і мы не будзем набываць граблі ў Кітаі, а бульбу везці з Афрыкі. Бо ніводны прыватнік не стане рабіць тавары даражэйшыя і горшыя за тыя, што можна набыць за мяжой.

Дзяржаўныя ж прадпрыемствы проста асвойваюць грошы на імпартазамяшчэнне ды карыстаюцца разнастайнымі льготамі. А замест выніку атрымліваецца "пшык".

## "НАШЫ ЛЮДЗІ МОГУЦЬ УСЁ"

Адна галава — прыватная пазіцыя, а некалькі — гэта ўжо зрэз грамадскай думкі. І гаворка пра імпартазамяшчэнне была б незавершанай, калі не даць слова суграмадзянам.

**"Якіх тавараў беларускай вытворчасці вам не хапае?" — запыталася ў людзей "ТіЦ".**

**МАРАТ КЛІМАЎ,
КАНДЫДАТ ГІСТАРЫЧНЫХ НАВУК,
АРХЕОЛАГ:**

— Ну, напрыклад, рулетак, якасных сякер, ды што там — элементарна якаснай паперы 80-й шчыльнасці або пакецікаў на замках-ліпучках. Для наладжвання побыту экспедыцыі вельмі мала або ўвогуле няма такіх беларускіх тавараў, як спецыялізаваны абутак для складаных умоў, зручная верхняя экіпіроўка, турыстычныя гарэлкі, кампактныя прымусы, тэрмакантэйнеры на некалькі страў, тэрмабялізна, святлодыёдныя ліхтары і шмат чаго іншага. Усё гэта беларуская прамысловасць не выпускае.

**ГАННА ТРУХАНОВІЧ, ВІЗАЖЫСТ,
"МАСКОЎСКІ ГАСТАРБАЙТАР":**

— Як быццам хапае і неблагой касметыкі, і адзення з абуткам, і сувенірнай прадукцыі для замежных сяброў. Але ва ўсім гэтым, шчыра прызнацца, мне не хапае беларускага — няма пазнавальных элементаў у вонкавым аздабленні, беларускай мовы на этыкетках. Адсутнічае тое, з дапамогай чаго адразу бачыш, што зроблена ў Беларусі. Нельга сказаць, што "ўзяў у рукі — маеш рэч".

**ЯЎГЕН АЛЕЙНІК,
ПРАДЗЮСАР, КАМПАЗІТАР:**

— Алкагольных напояў класа люкс. Даводзіцца купляць нямецкае або іспанскае шампанскае па 200 тысяч за бутэльку, бо ад нашага толькі пахмелле атрымліваеш, а не асалоду. Часта ў нас вырабляюць выдатныя тавары, якія потым некуды знікаюць. Так было з маім любімым сырам "Белавежскі Пармезан" ад "Савушкін прадукт": цемнаваты, цвёрды, вельмі смачны, ён знік у невядомым кірунку, хоць я і разумею, што, хутчэй за ўсё, не вытворца ў гэтым вінаваты… Калі закранаць прафесійную дзейнасць, то ні прафесійнае праграмнае музычнае забеспячэнне, ні гукавое абсталяванне ў Беларусі не вырабляюць, ды і нельга адразу зрабіць рэч лепшую, прыкладам, чым у нямецкай фірмы "Нойман", якая вырабляе мікрафоны ўжо не першы дзясятак гадоў. Разам з тым у нас хапае таленавітых людзей. Скажам, сцэнічныя ўборы мы замаўляем у беларускіх дызайнераў сясцёр Парфяновіч, візаж і цырульніцкае майстэрства ў Беларусі развіты да вельмі высокага ўзроўню. Асобна адзначу абутак: мне як чалавеку з 50-м размерам нагі абутак раней даводзілася толькі шыць на заказ, а з'яўленне на айчынным рынку адной абутковай фірмы стала для мяне проста паратункам, бо можна прыехаць і выбраць з вялізнага мадэльнага шэрагу. Словам, пазітыўныя зрухі ёсць, але многае ў беларускай эканоміцы засталося ад савецкай сістэмы.

**ЮРЫЙ КАЛАЧЫНСКІ,
АФІЦЭР ЗАПАСУ:**

— Беларускіх тавараў мне хапае, не хапае якасных. Тых жа рыдлёвак: у краме для садаводаў стаяць галандскія па 400–600 тысяч і беларускія па 90. Адгадайце, якія лепш бяруць? А вось і не! Бяруць галандскія, бо яны не гнуцца ад першага ж дотыку да каменя і служаць гадамі. А беларускую трэба самому тачыць і насаджваць на ручку, ды яшчэ мяняць праз некалькі месяцаў, бо пагнецца ці зламаецца.

**ШУРА ВЕРГУНОЎ, ГУМАРЫСТ,
АРТЫСТ ТЭАТРА "ХРЫСТАФОР":**

— Мякка кажучы, усяго. Хоць што тычыцца абутку, трыкатажу, ільняных вырабаў, прадуктаў харчавання, я ўсім задаволены і нават ганаруся асобнымі вытворцамі. А вось чаго дакладна не хапае, дык гэта аўтамабіляў (маюцца на ўвазе легкавыя, з астатнімі ў нас парадак) — хочацца, каб яны не выклікалі нараканняў і былі такімі ж брэндамі, як МАЗ ці БелАЗ, гэткім бюджэтным варыянтам аўто сямейнага тыпу, даступным і для гарадскога, і для вясковага жыхара. Натуральна, хочацца, каб з'явілася і свая аргтэхніка — што ж мы, горшыя за кітайцаў, камп'ютар не асілім? Насамрэч я вельмі паважаю беларускі народ. У нас выдатныя людзі жывуць — рукастыя, галавастыя, кемлівыя, і яны ўсё могуць зрабіць, калі ім толькі крышачку дапамагчы. І хаця б не перашкаджаць".

Да апошніх слоў Вергунова дадасці няма чаго.

**ВІКТОРЫЯ ПРАКАПОВІЧ**



*Пакуль нават рыдлёўкі нармальна рабіць якасна не навучыліся*

# ШТОДНЯ 1 МІЛЬЁН РУБЛЁЎ

## Усяго ж сёлета на дзейнасць дэпутатаў і сенатараў з бюджэту выдзяляецца звыш 64 мільярдаў рублёў.

У бюджэце краіны на 2012 год Еўрарадыё знайшло, колькі грошай сёлета пойдзе на Палату прадстаўнікоў і Савет Рэспублікі. Сума не маленькая — 64 мільярды 81 мільён рублёў. Дэпутатаў у нас 110, сенатараў — 68. На кожнага з іх прыпадае па 360 мільёнаў у год альбо па 1 мільёне ў дзень з гэтых закладзеных у бюджэт мільярдаў.

"На што штодня трацiцца гэты "дэпутацкі" мільён?" — цікавіцца Еўрарадыё ў дэпутата **Валянціны Леаненкі**. Але яна прызнаецца, што пры вывучэнні бюджэту ўвагу найперш звяртала на тое, колькі грошай ідзе на сацыяльныя патрэбы.

**Валянціна Леаненка:** *"Вось гэты артыкул... неяк ён па-за маёй увагай прайшоў. Што тычыцца ўтрымання дэпутатаў — неяк я не звяртала на гэта ўвагі, таму я нават ніяк не магу пракаментаваць: куды ідзе, як ідзе — гэта зараз могуць быць толькі мае здагадкі".*

І толькі старшыня камісіі па ахове здароўя, фізічнай культуры, справах сям'і і моладзі Алег Вялічка паспрабаваў падлічыць разам з карэспандэнтам Еўрарадыё, на што ідуць гэтыя грошы. Пачалі з дэпутацкага заробку.

**Алег Вялічка:** *"Ну, заробак, калі палічыць: дэпутатаў 110 і, па-мойму, чалавек 170 супрацоўнікаў сакратарыята — атрымліваецца, прыблізна, 300. Калі памножыць на нейкі сярэдні заробак, мільёны 4-5 у сярэднім, то вось вам ужо палова той сумы, пра якую вы кажыце. Гэты заробак жадае быць значна лепшым — нават 5 мільёнаў няма".*

Працягваючы падлікі, называе іншыя артыкулы, на што ідзе штодзённы дэпутацкі мільён з бюджэту-2012.

**Алег Вялічка:** *"Камандзіровачныя — таксама самыя значныя выдаткі. А што больш? Ну, нейкія ж яшчэ выдаткі ёсць. Набыццё нейкага там стала, крэсла, яшчэ нечага — як у любой установе. На ўтрыманне будынка, на набыццё нейкага абсталявання. Хаця на гэта, я ведаю, не так і шмат выдзяляецца. Ніхто тут не шыкуе, паверце мне! Нармальныя ўмовы, але залатых унітазаў няма".*

**ЗМІЦЕР ЛУКАШУК,
HTTP://EURORADIO.FM/**

# НЕЗАЛЕЖНАСЦЬ АД ПРАВАДЫРА

**Станцыя мінскага метро, што месціцца на плошчы Незалежнасці, захавае старую савецкую назву — "Плошча Леніна". Такое рашэнне прынялі сталічныя ўлады пасля публічнай дыскусіі, якая цягнулася не адзін год.**

## 8 ГОД НЕЗАЛЕЖНАСЦІ

Станцыя метро "Плошча Леніна" расчыніла дзверы ў 1984 годзе ў час запуску ў сталіцы БССР метрапалітэна. Праз восем год на хвалі беларусізацыі Мінгарсавет пастанавіў перайменаваць станцыю ў адпаведнасці з назвай галоўнай плошчы Мінска — Незалежнасці. Станцыя метро "Плошча Незалежнасці" існавала з 1992 па 2003 год, калі пасля зваротаў ветэранскіх арганізацый яе вярнулі пад "ленінскі штандар". Адзначым, што ўсе 11 гадоў "незалежнасці" на мармуровых сценах станцыі красавалася старая савецкая назва.

У апошніх восем год грамадскасць сталіцы не аднойчы ўздымала пытанне аб вяртанні станцыі "незалежнай" назвы, хаця б з чыста прагматычных прычын. З 2008 года прыпынак аб'яўляецца як "станцыя "Плошча Леніна", выхад да чыгуначнага вакзала і плошчы Незалежнасці". Да таго ж на вакзале на ўказальных шыльдах пазначана назва "Плошча Незалежнасці". Усё гэта збівае з панталыку гасцей сталіцы. І сапраўды, цяжка зразумець, чаму галоўная плошча горада мае адну назву, а станцыя пры ёй — іншую.

## НЯСПРАЎДЖАНАЯ НАДЗЕЯ

5 сакавіка 2010 года камісія па найменаванні і перайменаванні вуліц пры Мінгарвыканкаме, якая складаецца з галоўнага мастака Мінска, гарадскіх чыноўнікаў, дэпутатаў Мінгарсавета і прадстаўнікоў грамадскасці, прыняла амаль рэвалюцыйнае рашэнне наконт назваў вуліц у цэнтры сталіцы. Прычым характар змен быў абсалютна адназначным: савецкія найменні замяняліся гістарычнымі. Да прыкладу, вуліца Герцэна павінна была стаць Бернардзінскай, Рэвалюцыйная — Койданаўскай, Дзімітрава — Пятніцкай, Камунальная ўзбярэжная — Траецкай узбярэжнай, Вызвалення – Уваскрасенскай. Станцыя метро "Плошча Леніна", паводле рашэння спецыялістаў, мусіла атрымаць назву "Плошча Незалежнасці".



*З Леніным яшчэ не развіталіся зусім*

Згодна з заканадаўствам, рашэнне камісіі было апублікавана ў СМІ, пасля чаго кожны жадаючы цягам двух тыдняў меў магчымасць даслаць уласныя заўвагі і прапановы. З улікам грамадскай думкі дэпутаты Мінгарсавета 25-га склікання павінны былі прыняць канчатковае рашэнне яшчэ напрыканцы сакавіка — пачатку красавіка. Аднак, як было заяўлена ў Мінгарвыканкаме, "не паспелі" зрабіць гэта да сканчэння чатырохгадовага тэрміну паўнамоцтваў.

Начальнік аддзела культурна-асветніцкай работы ўпраўлення культуры Мінгарвыканкама **Вольга Лукашук** назвала тады сітуацыю з перайменаваннем "неадназначнай", паведаміўшы, што за два тыдні да іх паступілі як станоўчыя, так і адмоўныя водгукі мінчукоў. У прыватнасці, было заяўлена, што супраць выступілі ветэранскія арганізацыі. Адзін з сяброў камісіі па перайменаванні вуліц, які прасіў не называць сябе, у гутарцы з карэспандэнтам **"Тут і цяпер"** выказаў меркаванне, што з прычыны "ветэранскага лобі" шанцаў на зацвярджэнне дэпутатамі іх рашэння вельмі мала. Так яно і атрымалася.

Напрыканцы 2011 года інтэрнэт-карыстальнік пад нікам stepanych пацікавіўся на афіцыйным сайце Мінгарвыканкама, "калі будзе пераназвана станцыя метро "Плошча Леніна" ў "Плошчу Незалежнасці".

У афіцыйным адказе, абнародаваным на мінулым тыдні, начальнік упраўлення культуры Мінгарвыканкама **Віталіна Рудзікава** паведаміла, што "дадзенае пытанне неаднаразова разглядалася на пасяджэннях камісіі, абмяркоўвалася грамадскасцю і зацікаўленымі арганізацыямі". У прыватнасці паведамляецца, што жыхары горада накіравалі ў камісію больш за 30 калектыўных зваротаў супраць перайменавання назвы станцыі метро "Плошча Леніна".

"Беручы пад увагу неадназначныя меркаванні жыхароў горада, камісія, упаўнаважаная згодна з рашэннем Мінскага гарадскога Савета дэпутатаў ад 12.03.2008 № 127 прымаць рашэнні аб перайменаванні складовых частак г. Мінска толькі з улікам станоўчых меркаванняў жыхароў горада, прыняла рашэнне захаваць існуючую назву станцыі метро "Плошча Леніна", — гаворыцца ў лісце Мінгарвыканкама.

## БЕЛАРУСІЗАЦЫЯ НА ЎСКРАІНАХ

Зацемім: нягледзячы на тое, што тапаніміка Мінска застаецца найбольш савецкай з усіх постсавецкіх сталіц, у апошнія гады беларусізацыя сталічных вуліц адбываецца досыць імклівымі тэмпамі. Гэтак, з 2003 года ў сталіцы з'явіліся скверы Аляксандраўскі і Бондараўскі, Камароўскі і Лютэранскі, Маламядзвежынскі і Кальварыйскі, Траецкая гара, Люцынская і Каралінская, Курапацкая... Паралельна паўстаюць вуліцы, названыя ў гонар выбітных дзеячаў айчыннай несавецкай гісторыі: Усевалада Ігнатоўскага, Алеся Гаруна, Іосіфа Гашкевіча, Ежы Гедройца, Ігната Дамейкі, Язэпа Драздовіча, Станіслава Манюшкі, Напалеона Орды, Льва Сапегі, Браніслава Тарашкевіча і інш. Праўда, размешчаны яны ў асноўным у новых раёнах на ўскрайках горада, каб не муліць вочы.

Пісьменнік і гісторык **Уладзімір Арлоў** патлумачыў **"Тут і цяпер"**, што рэжым Лукашэнкі яшчэ можа ўшанаваць асоб "аддаленай" гісторыі, аднак ні ў якім разе — змагароў з расійскім прыгнётам і заснавальнікам БНР. Метадолаг і футуролаг **Уладзімір Мацкевіч** заўважае, што прычына *непаслядоўнасці ўлад у тым, што ў навуковай, адукацыйнай*, ідэалагічнай галінах застаюцца людзі, якія "дагэтуль карыстаюцца антыбеларускай ідэалогіяй сярэдзіны 1990-х, яны не атрымалі загаду згарнуць яе і перайсці да новай".

Вянцом сістэмы ёсць сам Аляксандр Лукашэнка, які неаднаразова называў сябе савецкім чалавекам, хваліў Леніна, Сталіна, іншых савецкіх правадыроў ды перайменаваў сталічныя праспекты Скарыны і Машэрава. Таму спадзявацца, што станцыя "Плошча Леніна" стане "Плошчай Незалежнасці", пры дзеючым прэзідэнце не выпадае.

**РЫГОР ЛУР'Е**

# ЕЎРАПЕЙСКІ ВЕКТАР З НЕЎЯЗНЫМ РЭКТАРАМ

**Чарговы скандал у Брэцкім дзяржаўным універсітэце — прарэктар Канстанцін Красоўскі публічна выказаў нязгоду з палітыкай, якую праводзіць рэктар Мечыслаў Часноўскі.**

Канстанцін Красоўскі быў шостым прарэктарам за дзевяць гадоў рэктарства Мечыслава Часноўскага.

Канстанцін Красоўскі сышоў з пасады, на якой лічыўся правай рукой рэктара. Цяпер ён працуе шараговым выкладчыкам і ад інтэрв'ю адмаўляецца. Выпадак, калі выкладчык не знайшоў агульнай мовы з кіраўніцтвам, не першы ў Брэсцкім дзяржаўным універсітэце.

Доктар філасофскіх навук, прафесар, былы дэкан гістарычнага факультэта Іван Акінчыц кажа, што пакінуў гэтую ВНУ з такіх жа прычын.

"Красоўскі распавёў на пасяджэнні рады ўніверсітэта прычыны свайго сыходу, — сказаў ён. — Яго як сумленнага чалавека турбаваў далейшы лёс універсітэта і, пабачыўшы, што робіцца, назваў прычыны і сышоў".

Прафесар тлумачыць, што галоўная прычына сыходу і яго, і Красоўскага, і многіх іншых выкладчыкаў — палітыка, якую праводзіць рэктар Мечыслаў Часноўскі. Сярод прычын, з-за якіх сыходзяць выкладчыкі, прафесар Акінчыц вылучае тое, што выкладчыкі мусяць найперш падабацца адміністрацыі, а не займацца непасрэднымі абавязкамі. Акрамя таго, сураз-моўца кажа, што ва ўніверсітэце стала вельмі непразрыстай фінансавая сістэма, нізкія заробкі. Гэта вядзе, як ён кажа, і да зніжэння ўзроўню выкладання. Перыяд рэктарства Мечыслава Часноўскага прафесар Акінчыц называе "перыядам развалу".

"Ён прыехаў сюды як пратэжэ вялікіх людзей з пасады намесніка дэкана факультэта і адразу стаў рэктарам, — кажа ён. — Людзі, якія цяпер знаходзяцца пры ўладзе, глядзяць толькі на адно — як дагадзіць Часноўскаму. Іх мала цікавяць праблемы павышэння якасці навучання студэнтаў. Яны абсалютна не турбуюцца з-за таго, што вядучыя выкладчыкі сыходзяць з універсітэта".

Выкладчыкі адзначаюць, што Мечыслаў Часноўскі часта кажа пра еўрапейскі вектар Брэсцкага ўніверсітэта. Пры гэтым сам рэктар абвешчаны неўязным у краіны Еўразвяза за рэпрэсіі падчас мінулых выбараў.

Каментуе былая выкладчыца Брэсцкага ўніверсітэта доктар мастацтвазнаўства ў галіне ўрбаністыкі і архітэктуры Ірына Лаўроўская:

"Еўрапейскі вектар, пра які ён кажа, напэўна, не мае на ўвазе еўрапейскасць універсітэцкай адукацыі. Еўрапейскія ўніверсітэты, перш за ўсё, — гэта гуманізм".

**РАДЫЁ СВАБОДА**

# "ЧАРАЎНІК ЦЕМРЫ"

**Скончылася свята, і пагасла святло. Праўда, у чэрыкаўскім варыянце гэта не калядныя свечкі ў храмах і кватэрах, а вулічныя ліхтары і іншыя асвятляльныя прыборы ў дварах, завулках, на дамах і офісах.**

Праўда, пасвяцілі яны людзям толькі ў навагоднюю і ў дзве наступныя ночы. І ўсё. Зараз зноў цемра гарадская, небяспечная і ледзь ці не жудасная…

Эканомія? Хто яго ведае, бо ніякага тлумачэння ці абвесткі на гэты конт няма — было святло і знікла. Акурат у 23.00 горад накрывае цемра, і таму, хто яшчэ не ў сваёй хаце ў гэты час, даводзіцца спадзявацца на ўласныя запалкі або прыходзіцца арыентавацца на рэдкія светлыя вокны дамоў, гаспадары якіх яшчэ не леглі спаць. Ды гэтае святло не надта і ратуе: калі казаць шчыра, то ні ад непрыемных сустрэч з падвыпіўшымі кампаніямі, ні ад калдобін, ямін і вулічных правалаў. А ўсяго гэтага ў нас хапае.

Я памятаю час, калі ліхтары на слупах гарэлі не столькі ноччу, колькі ўвесь белы дзень. Гэта было падчас "развітога сацыялізму", які хоць і трымаўся лозунга "эканоміка павінна быць эканомнай", але насамрэч нічога не зберагаў. Затое цяпер іншае: наша сацыяльная дзяржава, якая толькі і робіць, што дзень і ноч дбае пра чалавека, прыбірае святло з гарадскіх вуліц



*І такіх, і сучасных запаленых ліхтароў пасля 23.00 у Чэрыкаве не ўбачыць*

у самы нязручны для людзей час. Чэрыкаўляне звязваюць гэтае рашэнне з новым старшынёй райвыканкама Мікалаем Кадаценкам. Яго калегу па працы старшыню Магілёўскага гарвыканкама сп. Станіслава Барадаўку гарадская газета "Веснік Магілёва" назвала ні многа ні мала як "чараўнікам" за яркае святочнае афармленне абласнога цэнтра, які, дарэчы, усё яшчэ працягвае зіхацець усімі колерамі электрычнай вясёлкі дзе трэба і дзе не трэба.

Нашаму ж старшыні такое не свеціць, калі толькі не назваць яго "чараўніком цемры".

**СЯМЁН ПАНІЗОЎЦАЎ**

# УЛАДЗІМІРА ЕРАМЁНКА АДЛІЧЫЛІ З УНІВЕРСІТЭТА

**Маладафронтавец быў адлічаны пасля таго, як адбыў 15 сутак за акцыю салідарнасці, што прайшла 19 снежня 2011 года каля Чырвонага касцёла ў Мінску, паведамляе Радыё Свабода.**

Ураджэнец Мёраў Уладзімір Ерамёнак вучыўся на трэцім курсе факультэта камп'ютарнага праектавання Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта інфарматыкі і радыёэлектронікі.

Пасля падзей на Кастрычніцкай плошчы ў 2010 годзе ён быў асуджаны на тры з паловай года ўзмоцненага рэжыму, але быў датэрмінова вызвалены 13 жніўня 2011 года. Тады яму ўдалося аднавіцца на вучобе.

Напрыканцы верасня, у 20-ю гадавіну абвяшчэння «Пагоні» і бел-чырвона-белага сцяга дзяржаўнымі сімваламі Беларусі, ён разам з Настай Палажанкай спрабаваў вывесіць сцягі ў цэнтры Мінска, але маладых людзей затрымалі. Уладзіміру далі тады 12 сутак арышту, і ва ўніверсітэце яго папярэдзілі, што новы адміністрацыйны арышт немінуча стане падставай для адлічэння.

Пасля апошняга затрымання, суда і арышту на 15 сутак так яно і сталася.

# ЯК СПЫНІЦЬ ЛЁТАЮЧЫЯ МАШЫНЫ?

*Заканчэнне.
Пачатак на стар. 3*

## ЯК СТАЦЬ КУЛЬТУРНЫМ?

Вадзіцельскі стаж **экс-прарэктара Белдзяржуніверсітэта кандыдата хімічных навук Анатоля Паўлава** складае больш за сорак гадоў. Анатоль Васільевіч лічыць, што беды на дарогах — па прычыне адсутнасці элементарнай культуры ў людзей.

— Няма культуры ў грамадстве — няма культуры і на дарогах, — лічыць Паўлаў. — На мой погляд, гэта ўзаемазвязаныя рэчы, і забаронамі гэтую праблему не вырашыш. Для таго, каб дамагчыся нейкіх вынікаў, трэба павышаць культуру ў грамадстве. Я лічу, што міліцэйскае начальства, брутальна разганяючы акцыі мірных грамадзян, сваімі ўласнымі рукамі руйнуе культуру ўзаемаадносін паміж людзьмі, прыўносіць у грамадства агрэсію.

Я за рулём ужо сорак з лішнім гадоў. Памятаю, як у канцы 80-х першы раз паехаў з жонкай на Кубань. Думаў, што з Харкава не выеду — усе вакол падрэзалі адно аднаго, ехалі праз трамвайныя шляхі. Я да такога быў нязвыклы, таму што ў Мінску ў той час праезд на чырвонае святло быў сапраўдным надзвычайным здарэннем. А сёння гэта звыклая справа. І жадаючых праскочыць на мігаючы зялёны ці жоўты таксама хапае. Да апошняга будуць ляцець! А гэта таксама непавага да тых, каму ўжо гарыць зялёны.



*На вялікі жаль, пад колы ліхіх кіроўцаў нярэдка трапляюць і дзеці*

А штрафы многім, прабачце, да аднаго месца. Таму я думаю, што павелічэнне штрафаў або ўзмацненне жорсткасці правіл дарожнага руху —гэта не выйсце. Вось мне якраз нядаўна прыяцель распавядаў прыклад з жыцця звычайнай нямецкай сям'і: хлопчыку 10 гадоў, ён сеў на задняе сядзенне і пакуль не прышпіліўся рэменем бяспекі, казаў бацькам, што нельга ехаць. А ў нас? Некаторыя бацькі не толькі самі не прышпільваюцца, але і дзяцей возяць без спецыяльных аўтакрэслаў.

Ці яшчэ прыклад. Мы ехалі ў Францыі на таксі па аўтабане, дзе стаіць абмежавальнік хуткасці 140. На дарозе нікога. Таксіст як паставіў "круіз" на 139 км, так і ідзе. І адзін наш пасажыр пытаецца: а чаму вы не паддадзіце газку? Кіроўца адказаў проста: нельга. У яго гэта на падсвядомым узроўні закладзена, яго так выхавалі. Благія кіроўцы, вядома, ёсць у кожнай краіне, але ў нас у апошні час гэта становіцца масавай з'явай.

## ПРАВІЛЫ РУХУ ВУЧЫЦЬ ТРЭБА ЯШЧЭ Ў ШКОЛЕ!

**Папулярная спявачка Ларыса Грыбалёва на дарозе заўсёды прапускае тых, хто занадта спяшаецца.**

— Мне здаецца, людзі проста больш нервовымі сталі, таму і на дарогах такая нервовая абстаноўка, — кажа Ларыса. — Мусіць, трэба часцей усім нам нагадваць, што трэба паважаць адно аднаго, за рулём у тым ліку. Я заўсёды імкнуся прапусціць — нікуды я не спазнюся з-за адной-дзвюх машын, якія будуць ехаць наперадзе. А ўсе вакол намагаюцца кудысьці паспець...

Трэба больш увагі ўдзяляць і пешаходам, якія выскокваюць на праезную частку незразумела адкуль, а яшчэ павялічыць штрафы, каб яны былі сапраўды дзейснай мерай. Я, напрыклад, не часта чую, што кагосьці аштрафавалі за тое, што ў неналежным месцы перайшоў дарогу. На мой погляд, Правілы дарожнага руху павінен вывучаць любы чалавек, і здаваць экзамен, нават калі ён ходзіць пешшу і ніколі не сядзе за руль.

**МАРЫНА МІТ**

## А ЦІ ВЕДАЕЦЕ ВЫ, ШТО...

### 58 ЗАМЕЖНІКАЎ ВЫСЛАЛІ З БЕЛАРУСІ З-ЗА П'ЯНСТВА ЗА РУЛЁМ

Начальнік упраўлення па грамадзянстве і міграцыі ГУУС Мінгарвыканкама Ігар Даршчонак лічыць, што найменш культурна ў нашай краіне паводзяць сябе грамадзяне Расіі.

Паводле яго слоў, толькі ў снежні сярод затрыманых на тэрыторыі Мінска ў нецвярозым стане за рулём 32 замежнікі — 21 грамадзянін Расіі, двое грамадзян Украіны; таксама ёсць грамадзяне Турцыі, Ізраіля, Аргенціны і адзін грамадзянін Кітая.

— Мяжа з Расіяй у нас адкрыта, таму расіяне часта прыязджаюць да нас адпачыць на выхадныя, бо ў нас гэта больш танна, — цытуе Даршчонка газета «Аўтабізнес». — І грамадзяне іншых краін, дзе закон больш жорсткі да нецвярозых вадзіцеляў, чамусьці лічаць, што ў нас можна «расслабіцца».

За 11 месяцаў мінулага года ў Мінску п'янымі за рулём былі злоўлены 179 замежных грамадзян. 58 з іх былі высланы, двайм адмоўлена ва ўездзе ў Беларусь на пэўны тэрмін.

### МІНІСТРАЎ КЫРГЫЗСТАНА ЗА ПАРУШЭННЕ ПДР БУДУЦЬ ПАЗБАЎЛЯЦЬ ДЗЯРЖНУМАРОЎ

Калі міністры будуць парушаць правілы дарожнага руху, іх пазбавяць нумароў серыі KG. Пра гэта на нарадзе ў Бішкеку заявіў прэм'ер-міністр Кыргызстана Амурбек Бабанаў.

"Дзяржаўныя нумары KG нікому не даюць права парушаць ПДР", — падкрэсліў чыноўнік.



**Заснавальнік** ТАА "Тут і цяпер" **Адрас** г. Мінск, вул. Касцюшкі, 18
**Галоўны рэдактар** А. Уласаў (email: info@svabodaby.net) **Падпісана ў друк** 22:45 12.01.12
Тыраж 299 экзэмпляраў